БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ-**CHURCH NEWS**

**BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH**

**Published by Parsh of St. Kiryla of Turau**

**524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025**

Год. 17 | Вялікдзень, 1998 | 1(59)

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!**

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

«Якая карысьць чалавеку,
калі прыдбае цэлы сьвет,
а душу сваю загубіць» (Мк. 8:36)

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры!

У вялікодную нядзелю на золаку царкоўныя званы абвяшчаюць цэламу сьвету вялікі цуд: Хрыстос уваскрос! І вестка, што Хрыстос сапраўды ўваскрос напаўняе нашыя сэрцы ўздымам да жыцьця. Ці ёсьць іншыя словы, каб былі гэтак блізкія й пацяшаючыя для нас? І ці ёсьць часіна ў годзе, каб можна было мець такую меру спадзяваньня на вечнае жыцьцё, як на Вялікдзень — у падзеі крыжовай сьмерці і ўваскрасеньня зь мёртвых Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста? Бо ж сёньня мы прамаўляем словамі малітвы: «Ты, Госпадзе, што на крыжы пакутаваў і сьмерць зьнішчыў і ўваскрос зь мёртвых, супакой нашае жыцьцё, бо Ты —адзіны Ўсемагутны» (*вялікодная сьціхіра на Хваліце*). Госпад Бог наш Ісус Хрыстос у сёняшні дзень зазьзяў усім нам вялікім сьвятлом — на трэці дзень пасьля таго, як Яго пахавалі, устаў зь мёртвых. Хрыстос уваскрос! Канчатковая перамога Ісуса Хрыста над сьмерцяй, дарагія мае, дае і нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25). Мы радасна ўсклікаем разам зь Янам Залатавусным: «Сьмерць! Дзе тваё джáла? Пекла! Дзе твая перамога? Хрыстос Уваскрос, і палі чэрці! Хрыстос Уваскрос, і цешацца анёлы! Хрыстос уваскрос, і памерлых няма ў магіле! Хрыстос Уваскрос з памерлых і стаўся Першым для ўсіх памерлых» (Вялікоднае слова Яна Залатавуснага).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, хварысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. А добра ведаць значэньне гэтай падзеі. Гэта сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (1Ян 5:4). Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы жывём у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асабліва ўсім нам трэба быць аб'яднанымі ды мець моцную веру ў Бога, вялікую сілу вытрываласьці ў змаганьні з акаянным, каб нашая сьвятая Беларусь уваскросла й сапраўды сталася свабоднай, незалежнай краінай.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынціянаў кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша, Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі чысьціні і праўды» (1Кар. 5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста.

«Мір вам» — абвяшчае Хрыстос апосталам, увайшоўшы праз «зачыненыя дзьверы» і паказваючы раны на руках і рэбрах ад цьвікоў.

А вучні ўсьцешыліся, як пабачылі Госпада, і зноў пачулі: Мір вам! Як Мяне паслаў Айцец, і Я пасылаю вас» (Ян 20:21).

Дарагія мае, служыць Богу — гэта й ёсьць служыць свайму народу. А каб належна служыць свайму народу, трэба любіць свой народ, сваю родную мову беларускую, ведаць сваю гісторыю, сваю культуру, трэба мець непахісную й моцную веру ў Бога й верыць свайму народу. Але аднымі словамі мы ня можам выявіць веру, як сьв. апостал Якуб кажа: «Вера, калі ня мае ўчынкаў, мёртвая сама ў сабе» (Як. 2:17). Не пакідайце ж і не ўцякайце ад Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабрародных намаганьнях, каб Царква была свая, беларуская Царква й служыла свайму беларускаму народу.

Аднак наша радасьць гэтага сьветлага дня уваскрасеньня Хрыстовага ня будзе поўная й дасканалая, калі яна ня будзе мець за сабою падтрымкі ў кожнага з нас узаемнай любові й шчырага братэрства. І няхай ня будзе паміж намі нічога таго, што разлучала б нас, бо мы ўсе — адзін беларускі народ.

Любасныя мае! Якое вялікае дабро й шчасьце ў тым, што Бог удастоіў нас быць беларусамі й быць дзецьмі Ягонае Хрыстовае Царквы, у якой мы становімся такімі блізкімі Ўваскрэсламу Госпаду, дзе мы здабываем ратунак у смутку й паўнату ў Сьвятым Духу.

Няхай жа кожны з нас, зь вераю і ў поўным перакананьні належна й непаслабна, добраахвотна ўжо дзейнічае, каб нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах усе вернікі з удзячнасьцю Богу славілі ўваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднаго абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах жыцьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія мае, слаўныя й мілыя Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС

ХРЫСТОС УВАСКРОС —
САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень 1998 году

архіяпіскап Мікалай

## БАРТАЛАМЕЙ 1-ы Ў КАНАДЗЕ

Украінская газэта «Віснык» за люты 1998 г., падае, што Сьвяцейшы Барталамей 1-ы Усяленскі Патрыярх Канстантынопальскі, сёлета ў травені наведае Канаду.

Яго Сьвятасьць будзе прабываць у Канадзе ад 25-31 травеня 1998 году. Візытацыю Патрыярха Барталамея арганізуе Грэцкая Праваслаўная Архіяпархія Канады.

Плянуецца, што ў час пабыту Патрыярха Барталамея ў Канадзе, ён наведае Украінскую Праваслаўную Царкву ў Канадзе. У Выніпегу 27 травеня ён мае наведаць багаведную школу Калегію Сьв. Андрэя, а 28 травеня на Ушэсьце мае служыць Патрыяхальную Сьв. Літургію ў сьвятыні Сьвятой Тройцы Украінскай Праваслааўнай Мітрапалічай Катэдры

## МІТРАПАЛІТ ВАСІЛЬ
(1914 - 1998)

Архіяпіскап Васіль, Мітрапаліт усяе Польшчы памёр 11 лютага 1998 году ў Варшаве, Польшча. Пахаваны 13 лютага на могільніку Воля ў Варшаве, Польшча. 15 лютага пасьля Сьв. Літургіі архіяпіскап Мікалай адслужыў паніхіду па памерламу Архірэю.

Мітрапаліт Васіль (у сьвеце Уладзімер Дарашкевіч) нарадзіўся 15 сакавіка 1914 году ў вёсцы Цісы, беластоцкага ваяводства, у беларускай праваслаўнай сялянскай сям'і. Бацька ягоны паходзіў зь вёскі Меляшкоў. Мітрапаліт Васіль добра уладаў беларускай мовай, як у гутарцы, так і на пісьме.

Пакойны мітрапаліт Васіль вучыўся ў Віленскай Духоўнай Семінарыі й потым студыяваў праваслаўную багаведу на Варшаўскім Універсытэце і закончыў яго ў 1939 годзе, а потым студыяваў на Багаведнай Маскоўскай Акадэміі, якую закончыў у 1962 годзе.

Быў рукапаложаны (высьвячаны) у дыяканы 1937 году, а ў ярэі 1938 году. Айцец Уладзімір Дарашкевіч абслугоўваў парафіі: у Міхайлове ад 1940 да 1946 і ў Гарадку ля Беластоку ад 1946 да 1960. Прыняў подстрыг у манаства 1959 году, а ў наступным 1960 годзе быў хіратанізаваны ў япіскапа. У гады 1961 — 1970 ачольваў Япархію Ўрацлаўска-Шчацінскую. Пасьля сьмерці Сьцяпана (Руднік) 1 сакавіка 1970 году Саборам Япіскапаў быў абраны на Мітрапалічы Пасад Мі-

(Руднік) 1 сакавіка 1970 году Саборам Япіскапаў быў абраны на Мітрапалічы Пасад Мітрапалітам Варшаўскім і Ўсяе Польшчы.

Архіяпіскап Сава Кіраўнічы Беластоцка-Гданскай Япархіі зьяўляецца выконваючым абавязкі Першага Ярарха да выбару новага. Усё паказвае, што ён мае шансы быць выбраным.

Вечная Пакойнаму Памяць!

## НОВЫЯ КНІЖКІ

Беларуская багаведа папоўнілася новымі кніжкамі а. Канстанціна Бандарука: ПАЗНАЙ СВАЁ І ПРАЎДА ВАС ВЫЗВАЛІЦЬ.

Хваліць кніжкі ня буду, бо кожны чытач будзе сам іх ацэньваць, асабіста цешуся, што гэтыя кніжкі мы маем.

Кніжка ПАЗНАЙ СВАЁ дае навуку для сьмяротнага чалавека пра службы ў Праваслаўнай Царкве. Яна дзеліцца на дзьве часті.

Першая частка месьціць у сабе пра паходжаньне й гістарычнае разьвіцьцё багаслужбы, расклад баслужбаў дзённы, тыднёвы й гадавы круг. Каляндарны круг, — каляндарныя сьвяты албо мінея (службы накожны дзень году), сьвятарскае адзеньне, кніжкі й пасуда ўжываныя на багаслужбах.

Другая частка падае навуку пра самыя багаслужбы, парадак дзённага, тыднёвага й гадавога круга. Сьвяты й розьніца паміж ім. Сьвятыя Тайны (Таінствы), патрабаваньні царкоўнага жыцьця.

Другая кніжка ПРАЎДА ВАС ВЫЗВАЛІЦЬ зьмяшчае ўсяцэла казані на кожную нядзелю і большыя сьвяты (Вялікдзен — Пасха Хрыстова й дванаццаць Сьвятаў, а па царкоўнаму Двунадзясятыя Сьвяты). Добра была б, каб нядзелі, асабліва пасьля Сьв. Тройцы, былі панумараваны, скажам: 1-я н. п. Сьв. Тройцы — Усіх сьвятых, ці 2-я н. п. Сьв. Тройцы — пакліканьне апостала і г. д.

Добра мець сваю багаведную тэрміналогію. Магчыма ў будучыні яна вырабіцца.

Царкоўна-славянскае слова «*благослові*» складаецца з двух слоў: благо — добра і слові — слаў, што па-беларуску будзе «Дабраслаў», але што азначае «бла» нікому не зразумела. *Срэценьне* — стрэчаньне ад слова сустрэча. *Праабражэньне* — перамяненьне, ад слова перамяніцца, альбо зьмяненьне ад слова зьмяніцца, бо Хрыстос на гары Табор зьмяніўся. *Узьвіжаньне* — падніманьне, альбо падняцьце, знойдзены Сьв. Крыж Хрыстовы паднімалі угару й паказвалі яго вернікам для пакланеньня.

Кніжкі напісаны па-беларуску лёгкай мовай, для кожнага зразумелай. Заахвочваю й вельмі раджу кожнай сям'і набыць гэтыя кніжкі й мець іх, як настольныя кніжкі ў сваёй хаце.

## РУКАПАЛАЖЭНЬНЕ

18 студзеня ў нядзелю перад Багазьяўленьнем за Сьв. Літургіяй мітрапаліт Мікалай рукапалажыў (высьвяціў) пабожнага дыякана Юрыя Няпомняшага ў ярэя, (сьвятара) для БАПЦ і назначыў яго для парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. У дыякана Юры быў рукапаложаны ў нядзелю 5 кастрычніка 1997 году.

Юры нарадзіўся 24 лістапада 1955 году ў Менску ў сям'і Гаўрылы й Іны й быў ахрышчаны сваім родным дзедам па бацьку а. Дзьмітрым.

У 1987 годзе ажаніўся з Вольгай (Клімавай). Бацька ейнай маці — Камяжэнка Агап быў сьвятаром. Ён падтрымоўваў Мітрапаліта Мелхісадэка ў арганізаваньні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У 1937 г. арыштаваны й загінуў на Сібіры.

Юры ў 1977 годзе закончыў Беларускі Палітэхнічны Інстытут з тытулам «інжынер-электрык» на выдатна. У 1992 годзе прыехаў да Канады.

## Царкоўная маёмасьць Прадана

Дэтройцкая Парафія Сьвятога Духа фармална была сарганізаваная ў 1967 годзе. А ў сапраўднасьці ўладыка Мікалай, тады айцец Міхал Мацукевіч наведваў дэтройцкую парафію з першай паловы пядзісятых гадоў, калі ахрысьціў у спадарства Сажычаў сына Язэпа. Спачатку а. Міхал наведваў дэтройцкіх беларусаў час да дасу, а потым прыязджаў туды раз на месяць. Службы адбываліся па хатах вернікаў. Пры канцы спадарства Бакуновічы ахвяравалі прытулішча для службаў праз два гады, калі ў 1971 годзе набылі будынак пад сьвятыню ад пратэстантаў. Будынак быў прыведзены для ўжытку праваслаўных багаслужбаў. Устаўлены прыгожы іканастас з належнымі абразамі. Сьвятыня была ўпарадкавана поўнасьцю.

Парафія Сьв. Духа праіснавала да 1987 году, калі яп. Ізяслаў (Бруцкі) задумаў судзіць у сьвецкіх судах парафіянаў. Ён адсудзіў маё-

кага). Ён зьліквідаваў парафію, а будынак прадаў за 50,000.00 дал. Цяпер нашым беларускім дабром і працаю карыстаюцца расейцы з Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы.

Вось як яп. Ізяслаў (Бруцкі) будуе АПЦ.

## ЮБІЛЕЙ

Сёлета споўнілася трыццаць гадоў, як архіяпіскап Мікалай быў хіратанізаваны ў сан япіскапа.

На просьбу архіяпіскапа Васіля БАПЦ, мітрапаліт Украінскай Грэка-Праваслаўнай Царквы Іларыён рукапалажыў студэнта багаведнай сэмінарыі Сьв. Андрэя ў Выніпегу Міхала Мацукевіча 2-га траўня 1954 г. у Саборы Сьв. Пакровы ў сан дыякана, а 6-га траўня на Сьв. Юрыя ў Катэдральным Саборы Сьв. Тройцы ў сан ярэя для Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Айцец Міхал быў назначаны архіяпіскапам Васілём кіраўнічым на парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Будучы на парафіі ў Таронта а. Міхал наведваў большыя асяродкі беларусаў, як: Ашава, Кобург, Монтрэаль, Садбуры, Лондан, Мансфільд ды Дэтроіт.

У 1966 годзе 2-га кастрычніка а. Міхал быў падстрыжаны архіяпіскапам Васілём ў манахі з імям Мікалай, а 3-га таго ж месяца быў узьведзены ў сан архімандрыта ў Катэдртальным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Н.Ё.

Тэлеграмаю 20 лютага 1968 году архімандрыт Мікалай быў выкліканы архіяпіскапам Сяргеем, Першым Ярархам БАПЦ да Аўстраліі на хіратонію.

Хіратонія ў сан япіскапа архімандрыта Мілалая адбылася: 9-га сакавіка 1968 г. выбар і прызначэньне архімандрыта Мікалая на япіскапа Турава-Пінскага, а сама хіратонія 10 сакавіка 1968 году ў сьвятыні Сьв. Арханёла Архістраціга Міхала ў Адэлайдзе, П. А. Аўстралія. У хіратоніі япіскапа Мікалая бралі ўдзел: архіяпіскап Сяргей, Першы Ярарх БАПЦ, архіяпіскап Васіль БАПЦ, аўстралійскі архіяпіскап Донат, Украінскай Праваслаўнай Царквы, аўстралійскі япіскап Дзімітры, Сэрбскай Праваслаўнай Царквы.

Выйшлі кніжкі працы архіяпіскапа Мікалая: «Службоўнік» — 1980 г.; «Напрастольнае Сьвятое Евангельле (Дабравесьце)» — 1988 г.; «Беларускі Праваслаўны Малітоўнік» — 1990 г.; «Беларускі Праваслаўны Малітоўнік» — 1995 г.; «Службоўнік» — 1994 г. (які месьціць літургіі Яна Залавуснага, Васіля Вялікага й Рыгора Дваяслова), а таксама Абедніцу заміж сьв. літургіі; «Службоўнік — Service Book» двумоўны службоўнік — 1995 г.; «Парэміі» — 1995 г., збор 285 парэмій, якія чытаюцца на багаслужбах у Праваслаўнай Царкве; «Кароткі беларускі тэрміналагічны царкоўны слоўнік» — 1992 г.; «Слоўнік сваяцтва» 1992 г. Апрача гэтага нарыхтаваныя кніжкі да друку: «Службоўнік частка 2-я» (усе вячорні, паўночніцы, ютрані й водпусты на багаслужбах), «Васьмісьпеўнік» (актоіх), «Часаслоў» поўны (час першы, трэці, шосты і дзявяты, абрад Панагіі, малое й вялікае павячор'е абедніца "дыяканска" разам з трапарыёнам), «Багаслужбовы апостал» на агульныя сьвяты, трыодзь кляточная, трыодзі нядзельнай (на 33 нядзелі), трыодзі поснай, тыдня пакутаў і на каляндарныя сьвяты. Поўнасьцю нарыхтаваная багаслужба «Падзяка Богу» за перамогу 8 верасьня ў 1514 г. пад Воршай. Трэбнік к. 1-я месьціць усе малітвы над маці пры родзе дзіцяці, абрад хросту, абрад споведзі, абрад шлюбу й абрад алеяпамазання. Трэбнік к. 2-я месьціць усе багаслужбы за памерлых сьвятарства, міран і дзяцей. Цяпер рыхтуецца трэбнік к. 3-я дзе увойдуць усе асьвячэньні: вады, сьвятыні і іншыя. Ёсьць нарыхтаваныя малебны.

Архіяпіскап Мікалай мае намер закончыць трэбнікі, якіх на ягоную думку мае быць шэсьць. Уладыка Мікалай мае 81 год жыцьця, пачуваецца добра, дохтар не знаходзіць у яго ніякай хваробы: няма цукрыцы, цісьненьне крыві нармальнае, сэрца працуе нармальна, тэмпература нармальная. Дай Божа яму пажыць даўжэй і закончыць яму сваю задуму.

## РАСКЛАД ВЯЛІКОДНЫХ БАГАСЛУЖБАЎ

12 красавіка Вербная Нядзеля
10-я гадз. рана Сьв. Літургія

16 красавіка чацьвер.Пакуты Госпадавы
6-я гадз. увечары чытаньне 12 Дабравесьцяў.

17 красавіка пятніца.3-я гадз. папаўдні.
Вынас Сьв. Плашчаніцы.

18 красавіка сыбота. 9-я гадз. рана.
Вячорня са Сьв. Літургіяй

У 11-й гадз. перад поўначчу Паўночня. Адразу пасьля Паўночні пачынаюцца вялікодныя багаслужбы: Ютраня, Часы і Сьв. Літургія.

**УВАГА**: Тыя, што прыпазьніліся са споведзьдзю, змогуць паспавядацца на Вербную Нядзелю, у Вялікую Сыботу рана, у Вялікую Сыботу перад Паўночняй і на Вялікдзень ў часе перапынку паміж Ютраняй і Сьв. Літургіяй на Вялікадні.